# КРЫВІНКА

ЖНІВЕНЬ
№ 12 (184)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ЖЫЦЦЁ Ў РЭЖЫМЕ ПРЫЛІВАЎ І АДЛІВАЎ

**У рэдакцыю "Зары" датэлефанавалася жыхарка трохпавярховага дома №8 па вуліцы Чарняхоўскага Надзея Яцук. Яна прасіла дапамагчы разабрацца з праблемай, якая, па яе словах, існуе ў доме ўжо не першы год: вада з трубаў цячэ ў падвал.**

- Вядома ж, мы неаднаразова звярталіся ў камунальную службу, - кажа Надзея Якаўлеўна. - Прадстаўнікі ЖКГ абяцалі навесці парадак у самы бліжэйшы час, але вада ў падвале па-ранейшаму працякае. На жаль, пакуль цягнецца наша перапіска, у падвале чысцей не становіцца. Пасля чарговага звароту да нас, безумоўна, прыязджае брыгада і «ліквідуе» цечу. Але як вынік, эфект адчуваецца ўсяго некалькі дзён - потым у склепе зноў становіцца мокра, пачынае непрыемна пахнуць і з'яўляюцца розныя казуркі. Калі ж камунальнікі нарэшце навядуць парадак? ..

Звярнула ўвагу жанчына і на тое, што дрэнна праводзіцца ўборка пад'ездаў, пра што сведчаць пыльныя лесвічныя клеткі, а таксама брудныя аконныя рамы і шкло. Па яе словах, няма належнага парадку і перад іх домам – трава не скошаная.

Каб на свае вочы пераканацца ў маштабе паднятых пытанняў, разам з намеснікам дырэктара УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік» У. Шчука і начальнікам аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама А. Журко мы накіраваліся на вуліцу Чарняхоўскага.

- Жывём у рэжыме «прыліваў і адліваў», - кажуць жыхары дома №8, спускаючыся ў падвальнае памяшканне. - І ўсяму віной - трубы.

Неабходна адзначыць, што ў дзень, калі мы адправіліся на дапамогу да занепакоеных людзей, камунальнікі ўжо працавалі з трубамі, і праблема на час знікла. Рамонтныя работы быццам бы скончаныя, сядзець бы цяпер жыхарам і атрымліваць асалоду ад прыгажосці і парадка, але ... брыгада работнікаў УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік» пакінула пасля сябе ў падвальным памяшканні будаўнічы смецце. А з некаторых заглушак па трубах сачылася вада.

Мы наведалі і пад'езд гэтага дома, які сустрэў нас бруднымі вокнамі. В. Шчука пагадзіўся, што праблема сапраўды існуе і яе неабходна вырашаць.

- Вінаватыя ў няякаснай ўборцы пад'ездаў, а таксама тыя, хто пакінуў у падвале смецце, несумненна, будуць пакараныя, - пракаментаваў намеснік дырэктара УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік». - Такога надалей не павінна быць, у самы самы кароткі тэрмін парадак тут будзе наведзены. На жаль, пра тое, што мы цалкам заменім трубы, гаворка пакуль весці не можам. Але рамонтныя работы скончым і давядзём ўсё да свайго лагічнага завяршэння.

Яшчэ шэраг пытанняў паднялі жыхары гэтага дома пры асабістай сустрэчы з прадстаўнікамі ЖКГ і мясцовай улады. У іх ліку, напрыклад, праблема з дарогай каля дома. Ўсе просьбы і нараканні былі ўзятыя на кантроль і па меры магчымасці будуць вырашаны.

У завяршэнне сказанага хочацца дадаць: напэўна нельга сцвярджаць, што ўсе абслугоўваючыя арганізацыі працуюць ідэальна. Дзесьці не хапае кваліфікаваных кадраў, дзесьці сродкаў, а дзсьці і адказнасці работнікаў. Але, мусіць, праблема не толькі ў ЖКГ, але і ў нашай прадузятасці да гэтай арганізацыі? Можа быць, і нам, жыхарам, варта больш уважліва ставіцца да месца, дзе мы жывем? Бо чыста не там, дзе прыбіраюць, а там, дзе не смецяць.

**Кацярына Ляхоўская**
**"Зара"**

***Партал твайго горада: http://beshankovichy.by***

****

*Я куплю табе востраў –*
*і тое зусім не дасціпнасць.*
*Будзе ён невялікім,*
*ды хопіць для нас для дваіх*
*для вялікага шчасця*
*ва ўтульнай*
*маленькай хацінцы,*
*дзе жыццё будзе бегчы*
*няспешна,*
*нібыта ў раі.*

*Будуць папараць-кветкі*
*цвісці каля хаты начамі,*
*будзе неба дарыць табе*
*знічак спадаючы дождж,*
*будуць вербы на беразе*
*плакаць,*
*а сэрца ад шчасця*
*на хвіліну ці болей замрэ,*
*ды не спыніцца ўсё ж.*

*Я куплю табе востраў,*
*а не – дык яго намалюю,*
*каб, аднойчы прачнуўшыся,*
*ты мне сказала, што ёсць*
*у мяне мора шчасця,*
*а я ім дарэмна гандлюю,*
*што патрэбен*
*не востраў табе,*
*а каханне маё.*

***Г.Станкевіч***

ВЫСТУП КАНДЫДАТА ГЕОРГІЯ СТАНКЕВІЧА

**Кандыдат у дэпутаты па Віцебскай-Чыгуначнай акрузе № 19 Г.Станкевіч 18-га жніўня выступаў па тэлебачані. Прапануем тэкст яго выступу.**

## ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК — НАЙВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ КРАІНЫ

Усім — добры дзень! Мяне завуць Георгій Станкевіч. Я — актывіст РУХУ «За Свабоду!» Мне 53 гады. Маю багаты жыццёвы досьвед. Валодаю замежнымі мовамі.

Як і Вы, я бачу, як змянілася наша жыццё за апошні час. У людзей забралі добрыя заробкі. З году ў год усё больш платнымі становяцца медыцына і адукацыя. У Віцебску ўлада клапоціцца толькі пра цэнтр горада, дзе сама абітае. А вуліцы на ўскраінах закінутыя. Тут няма ходнікаў і дрэннае асвятленне. З такіх вуліц не прыбіраецца снег. Існуюць як бы два розныя гарады — Віцебск плошчаў і праспектаў і Віцебск ускраінаў.

Але самае страшнае, што ў сённяшняй Беларусі няма ЧАЛАВЕЧЫХ АДНОСІНАЎ ДА ЧАЛАВЕКА. Яму не давяраюць. Ім кіруе цэлая армія чыноўнікаў, быццам сам чалавек нядзеяздольны. Гэта пры тым, што просты чалавек — найвышэйшая каштоўнасць любой краіны! Трэба толькі зрабіць, каб гэты чалавек працаваў НА СЯБЕ. І наша краіна стане працвітаючай.

Я сам працую настаўнікам, але пры тым трымаю тры каровы. Яны — мая ПРЫВАТНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ. Яны даюць штомесяц каля 1000 рублёў прыбытку. Настаўніку ў Беларусі такія заробкі і не сніліся. А ў калгасе даярка, што доіць 50 калгасных кароў, зарабляе толькі 300 рублёў. Па сутнасці, ёй на зарплату ідзе малако адной каровы. А малако ад 49-і кароў ідзе на аклады чыноўнікам. У раёнах, абласцях, рэспубліцы ёсць цэлыя сельгасаддзелы, якія кантралююць і вучаць гэту даярку, як ёй працаваць. Магу Вас запэўніць, што ўсе гэтыя кантралёры жывуць лепш за яе.

І падобная сістэма існуе ПАЎСЮЛЬ у Беларусі. Той, хто не мае прыватнай уласнасці, той хто працуе на дзяржаву ці на калгас, зарабляе нашмат менш, чым той, хто яму ўказвае, хто піша і разносіць паперкі. Я лічу, што гэта няправільна.

10 месяцаў свайго жыцця я правёў у Германіі, дзе працаваў у фермера. Ён за пару гадоў пабудаваў дом для сваёй дачкі за паўмільёна еўра, рэгулярна абнаўляе парктэхнікі. Ён працуе на сябе. Над ім няма такой арміі чыноўнікаў. Увесь прыбытак ад гаспадаркі ідзе яму. Ён толькі рэгулярна плаціць падаткі. Ён мае добрыя дарогі, ходнікі і асвятленне. Ён мае ўсё неабходнае для жыцця.

Заходняе грамадства давярае Чалавеку, яно дае магчымасць яму займацца любой справай¬ і не садзіць яму на карак армію дармаедаў. Гэта грамадства багатых людзей.

Задача нашых дэпутатаў ПРЫНЯЦЬ ТАКІЯ ЗАКОНЫ, якія б мірным шляхам змянілі нашу сістэму. Нам патрэбны, як у Германіі, Закон аб ПРЫВАТНАЙ уласнасці на зямлю. У Беларусі мусіць быць рэальнае САМАКІРАВАННЕ. Бо на месцах віднеі, што і як рабіць. Нам не патрэбная такая армія чыноўнікаў. А яшчэ — выканаўчая вертыкаль мусіць АБІРАЦЦА народам, а не прызначацца.

А вось нашыя прыўладныя чыноўнікі аніякіх пераменаў не жадаюць. І на выбарах яны робяць усё, каб такія як я ў дэпутаты не прайшлі.

Дзеля гэтага арганізавана МАСАВАЕ датэрміновае галасаванне, пры якім амаль 40% выбаршчыкаў быццам бы не могуць прагаласаваць у дзень выбараў. А яшчэ больш за 10% выбаршчыкаў на Віцебшчыне аказваюцца ў дзень выбараў НАСТОЛЬКІ хворымі, што ім вязуць бюлетэні дахаты. Якія махінацыі з бюлетэнямі пры гэтым робяцца, мы можам толькі здагадвацца.

Мы даўно прапануем, каб кожны бюлетэнь СА СКРЫНІ для галасавання пры падліку ПАКАЗВАЛІ КОЖНАМУ ЧЛЕНУ КАМІСІІ, КОЖНАМУ НАЗІРАЛЬНІКУ. Каб назіральнік бачыў прозвішча, якое там АДЗНАЧАНА. Гэта і ёсць АДКРЫТЫ падлік, шлях да справядлівых выбараў.

А тое, што адбываецца ў Беларусі апошнія гады — гэта, на жаль, не выбары. Гэта недэмакратычная працэдура зацверджання чыноўніка ў статусе дэпутата.

Дарагія землякі! Вы — найвышэйшая каштоўнасць нашай краіны, Вы маеце вялізны патэнцыял, і Вы мусіце яго раскрыць. Наш горад Віцебск стане еўрапейскім горадам!

Я, Георгі Станкевіч, актывіст Руху «За Свабоду», буду разам з вамі гэтага дабівацца.

Галасуйце за перамены ў жыцці! Адстойвайце свой выбар! Змяніце сваё жыццё да лепшага!

Калі Вы захочаце даведацца пра мяне больш, пагледзіце ў Інтэрнэце невялікі фільм. Ён называецца «Я лічу, што я шчаслівы».

Калі ў Вас будуць пытанні, мой тэлефон 218-47-39 (МТС).

**Георгі Станкевіч**

КАМПАНІЯ - 2016

# ВЫСТУП КАНДЫДАТА ЯГОРА ЛЕВАЧОВА

**Кандыдат у дэпутаты па Лепельскай выбарчай акрузе № 23 Ягор Левачоў 24-га жніўня выступіў па тэлебачанню. Знаёмім з тэкстам ягонай прамовы.**

Вітаю, шаноўныя выбаршчыкі!

Маё імя – Ягор Левачоў, я кандыдат у дэпутаты па Лепельскай выбарчай акрузе. Гэта тры раёны: Чашніцкі, Бешанковіцкі і Лепельскі. Я з адзнакай скончыў БДУ і атрымаў ступень магістра геаграфічных навук. Нарадзіўся і вырас у Бешанковічах, дзе і жыву зараз.

У мінулым годзе на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь многія з вас прагаласавалі за кандыдата ад кампаніі «Гавары праўду» Таццяну Караткевіч, падтрымаўшы нашу праграму «Мірных пераменаў». У гэтым годзе мы камандай ідзем у парламент, каб працягнуць пачатае.

Мірныя перамены:

• гэта ўлада, якая паважае грамадзянаў і раіцца з імі;

• гэта эканоміка, у якой ствараюцца ўмовы для таго, каб працаваць і годна зарабляць;

• гэта дзяржава, якая забяспечвае сацыяльную абарону кожнаму з нас.

Сёння ў нашай акрузе ўлада нас не паважае. Ямы ў нашых дварах, затопленыя падвалы, адсутнасць асвятлення — вось прыклады такой непавагі. Таму нам трэба самастойна абіраць уладу. Бо абраны кіраўнік выканкама будзе адказваць перад народам, а не перад вышэйстаячым чыноўнікам. І будзе думаць, што яго грамадзянам патрэбна гарачая вада ў Бешанковічах кожны дзень, адэкватная транспартная сетка ў Лепелі, чысты пляж у Навалукомлі, асветленыя і асфальтаваныя вуліцы. Інакш мы не абяром яго зноў на наступны тэрмін, і ён не будзе кіраваць раёнам. А зараз атрымліваецца: сказалі зверху эканоміць — значыць будзем эканоміць, а вы там хадзіце па пабітых дарогах, яшчэ і святло выключым.

«Мірныя перамены — гэта эканоміка, дзе зарабляюць». Трэба не "душыць" прадпрымальнікаў праверкамі, а, наадварот, дапамагаць ім, стварыць такія ўмовы, каб з'явілася больш прадпрыемстваў і ІП, бо гэта новыя працоўныя месцы. Сёння чыноўнікі толькі ўстаўляюць палкі ў колы бізнэсу, не даюць развівацца канкурэнтам дзяржпрадпрыемстваў. Вось чаму ні ў адным з раёнаў так і не адчынілі «Еўраопт»? Таму што гэта не выгадна райсаюзу. А хто на баку райсаюзаў? Правільна, мясцовая ўлада. Прадаўцоў гэтых райсаюзаў за людзей не лічаць: абяцаныя заробкаў не бачна, перапрацоўку гадзінаў не аплочваюць, прэміі пазбаўляюць за любыя правіннасці. Павінна быць здаровая канкурэнцыя, і тады будуць новыя працоўныя месцы і грошы ў бюджэце на сацзабеспячэнне, якасную бясплатную адукацыю і якасную бясплатную ахову здароўя.

Сацыяльнае забеспячэнне трэба так выбудаваць, каб пенсія, хвароба або страта карміцеля не былі для чалавека катастрофай. Дапамога па беспрацоўі — на ўзроўні пражытачнага мінімуму. Годныя пенсіі, якія будуць разлічвацца з усяго заробку і ўключаць службу ў войску, дэкрэтны адпачынак і вучобу.

Калі я стану дэпутатам, абяцаю вырашыць праблему вады ў Бешанковічах: каб яна была гарачай кожны дзень і летам таксама, а то атрымліваецца як у тым анекдоце «кількі той зімы»; каб ваду можна было піць, а не ездзіць па яе ў крыніцы. У Лепелі трэба аптымізаваць транспартную сетку гарадскіх і прыгарадных маршрутаў, каб людзі ездзілі не толькі на працу і вечарам назад, але і па сваіх справах.

Дарогі — мабыць, галоўная праблема ў нашай акрузе; я маю на ўвазе не цэнтральныя магістралі і не вуліцы чыноўнікаў, а нашы вуліцы, дзе мы жывем. Упэўнены, у Бешанковічах, Лепелі, Чашніках і Новалукомлі часцяком прыходзіцца змяняць падвеску. Але мы плацім тройчы за дарогі: дарожны збор, збор на добраўпарадкаванне, частка акцызу на паліва. І куды ідуць гэтыя сродкі? Будзем разбірацца.

Мяне, як магістра геаграфічных навук, турбуе экалагічная сітуацыя ў нашай акрузе: возера Лукомльскае «квітнее» раней, чым звычайна з-за скідаў з ДРЭС, фабрычнае возера ў Чашніках таксама ў запусценні. У шматлікіх прыватных сектарах нашых гарадоў практыкуецца вываз смецця раз на тыдзень: не паспеў — чакай наступнага разу. Гэтую практыку трэба прыпыніць і ўсталяваць смеццевыя бакі на вуліцах.

Я не буду паветраных замкаў і не абяцаю вам басейнаў, мастоў, лядовых арэнаў і лодачных станцый, але праца, вада, дарогі і экалогія - гэта вельмі важныя праблемы, якія трэба вырашаць ужо цяпер.

11 верасня мы зробім выбар. Галасуйце за мяне - Ягора Левачова. Так, я малады, але менавіта таму я не буду адседжвацца ў крэслі гэтыя 4 гады, а буду працаваць над нашымі праблемамі, так, я малады і менавіта таму я ведаю, якой мы, маладыя, бачым Беларусь!

Прыйдзіце на выбарчыя ўчасткі 11 верасня і прагаласуйце за кампанію "Гавары праўду", за мяне, Ягора Левачова, дайце дарогу маладым!

Мірныя перамены - дабрабыт у кожны дом!

**Ягор Левачоў**

З СУДОВАЙ ЗАЛЫ

# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ НАШАЙ ПРАДАВАЧКІ

**На лаве падсудных - маладая жанчына 1994 года нараджэння (назавем яе Т.), якая аказалася нячыстай на руку. З яе паказанняў вынікала, што з кастрычніка 2015 па люты 2016 года яна працавала прадаўцом аўтамагазіна.**

Дадзеная пасада прадугледжвае матэрыяльную адказнасць, якую, як аказалася, нездарма на яе ўсклалі. Бо, маючы доступ да грошай і да склада, дзе захоўваліся тавары, яна з лёгкасцю карысталася гэтымі "дабротамі". У выніку першы ж пераўлік паказаў нястачу ў суме амаль 500 рублёў (5 млн да дэнамінацыі). Гэтую "праблему" падсудная вырашыла проста. Папрасіла дапамогі ў загадчыкаў іншых крам, якія з лёгкасцю пайшлі ёй насустрач - далі тавар на перыяд рэвізіі.

Але воляю лёсу, літаральна праз два тыдні яе чакаў другі пераўлік. І тут ужо ўсплыла сума ў 132 базавыя велічыні - 2790 рублёў 74 капейкі. Распачалі крымінальную справу, прадаўца звольнілі.

Як патлумачыла суду абвінавачаная, яе муж доўга не працаваў, а неабходна было карміць сям'ю, плаціць за кватэру, вось і "запазычыла" у райпо прадукты і грошы. Ды і тавар з аўтамагазіна яна давала пакупнікам у доўг.

Пасля звальнення Т. ўладкавалася на працу ў сельгаспрадпрыемства і пачала выплачваць доўг райпо. Да моманту разгляду крымінальнай справы ў судзе ён быў пагашаны ў поўным аб'ёме.

- Мне было цяжка працаваць прадаўцом, - казала падсудная. - Заўсёды не хапала грошай. Не атрымлівалася здаваць выручку кожны дзень, не было касавага апарата. Хоць гэта і не здымае з мяне віны.

- На лаве падсудных маладая жанчына, якая сваёй правіннасцю перакрэсліла свой лёс, - адзначыла намеснік пракурора раёна Эльвіра Ляшонок. - Празмерны давер службовых асоб райпо, адсутнасць з іх боку належнага кантролю і неахайнасць дзеянняў абвінавачванай прывялі яе на лаву падсудных. Бо нездарма ў народзе кажуць: "Давярай, але правярай". Атрымліваецца, ёй даверылі больш, чым было дазволена законам. Праца прадаўца няпростая, але чалавек у любым выпадку павінен заставацца прыстойным. І ніякія сямейныя бязладзіцы не павінны штурхаць на злачынства. Бо можна было проста змяніць прафесію, якая не прыносіла належнага даходу.

Суд прыняў да ўвагі поўную кампенсацыю прычыненай шкоды, раскаянне падсуднай і чыстасардэчнае прызнанне віны, а таксама той факт, што на яе ўтрыманні знаходзіцца малалетняе дзіця. Т. вызвалена судом ад крымінальнай адказнасці. На падставе арт. 86 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь яна была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 30 базавых велічынь (630 рублёў).

**Алена Марозава**
**"Зара"**

ЗДАРЭННЕ

# РАЗБІЛІСЯ НА МАТА-ЦЫКЛЕ

**У гэтым годзе на дарогах вобласці адбылося 13 аварый з удзелам матацыклістаў. Адна з іх адбылася з жыхарамі Бешанковічаў.**

Як распавеў раённай газеце начальнік ДАІ Бешанковіцкага РАУС Аляксей Івашнёў, 12-га жніўня гэтага года на вуліцы Валадарскага адбылося ДТЗ. Жыхар райцэнтра не справіўся з кіраваннем матацыклам і наехаў на бардзюр. Матацыкл перакуліўся. Кіроўца і пасажыр шпіталізаваны з траўмамі рознай ступені цяжкасці.

З 13-га па 18-га жніўня бягучага года на тэрыторыі раёна праводзіліся прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на папярэджанне ДТЗ з удзелам матацыклаў, мапедаў і іншых механічных двухколавых транспартных сродкаў.

Па словах начальніка аддзялення праблема досыць актуальная для Віцебшчыны. У ДАІ падкрэслілі, што часцей за ўсё дарожныя інцыдэнты адбываюцца па віне саміх бестурботных кіроўцаў мотатэхнікі. Дзяржаўтаінспэктары заклікаюць вадзіцеляў двухколавых транспартных сродкаў да няўхільнага выканання Правілаў дарожнага руху.

**М.Васільеў**

НАША ЖЫЦЦЁ

# СЁЛЕТА ЗАГІНУЛА 17 ЧАЛАВЕК

**Бешанковіцкі раён у 2016 годзе страціў 17 жыхароў. Практычна заўсёды прычынай смерці было ўжыванне спіртнога.**

Па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні на пажары загінулі два чалавекі. У выніку атручвання алкаголем памерлі тры чалавекі, у ДТЗ загінуў адзін чалавек, яшчэ адзін - у выніку няшчаснага выпадку пры падзенні з вышыні. Адзін чалавек забіты электратокам, трое - загінулі ад рук іншых людзей. Шасцёра пайшлі з жыцця па сваёй волі, здзейсніўшы суіцыды.

Чаму ж людзі растаюцца з жыццём па ўласнай волі? Цяжкая жыццёвая сітуацыя? Матэрыяльнае становішча? Аднак калі паглыбіцца ў падрабязнасці жыцця самагубцаў, то на спіртное і разгульную весялосць у іх заўсёды знаходзіліся грошы. Неўладкаваная асабістае жыццё? Зноў не тое, бо ў нашым грамадстве, пры дадатку пэўных намаганняў, можна дабіцца многага. "Прычын" можна называць шмат, але ні адна з іх не варта чалавечага жыцця.

У асноўным людзі, якія пайшлі з жыцця ў выніку здзяйснення суіцыдаў, былі здаровыя. І, на маю думку, яны проста праявілі слабасць, ці я б нават сказаў, жаль толькі да сябе. І наўрад ці яны думалі ў тыя моманты аб іншых. Я сустракаў нямала людзей, якія былі цяжка і невылечна хворыя. Аднак у іх паводзінах, іх светапоглядзе, ды і проста ў вачах заўсёды адчувалася цяга да жыцця. Яны, разумеючы, што не ў сілах штосьці-небудзь змяніць у сваім лёсе, спяшаліся жыць, радуючыся кожнаму пражытаму дню, і гатовыя былі аддаць любыя даброты, абы быць здаровымі. Ніхто з іх не думаў пра смерць, як пра спосаб збавення ад жыццёвых праблем.

Андрэй Бурнейка, намеснік начальніка Бешанковіцкага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

НЕЗАЛЕЖНАСЦІ – 25 ГАДОЎ

# «МЫ НАЧАЛИ СТРОИТЬ НОВУЮ СТРАНУ»

**Четверть века назад Беларусь формально стала независимой страной. На волне провала путча в Москве депутаты Верховного совета БССР почти единогласным решением придали Декларации о суверенитете статус конституционного закона.**

«Сесія Незалежнасці», как ее назовут потом, была созвана 24 августа по требованию оппозиции БНФ, к которой присоединились другие демократические члены парламента.

В начале сессии депутат от БНФ Галина Семдянова внесла бело-красно-белый флаг в Верховный совет и установила его рядом с красно-зеленым флагом БССР

Перед началом сессии БНФ призвал минчан приходить на площадь перед Домом правительства. Тысячи людей откликнулись и оставались на площади и днем, и ночью.

Депутаты-коммунисты неожиданно поддержали оппозицию: они проголосовали не только за независимость, но и за приостановку деятельности собственной партии.

Десять депутатов Верховного совета XII созыва поделились с TUT.BY своим самым эмоциональным впечатлением тех дней, атмосферой, которая отпечаталась у них в памяти.

Депутат от БНФ Валентин Голубев говорит, что в обществе было большое напряжение в те дни, никто не знал, чем закончится история с путчем.

— В поддержку депутатов-демократов 25 августа на площадь пришло несколько десятков тысяч людей. Без их поддержки Верховный совет, я думаю, не принял бы те два решения — о независимости и о запрете компартии. С площади пришла делегация, они потребовали трансляцию заседания через аппаратуру, которая еще на парадах работает. Все быстро подключили. Люди слышали все, что происходило в зале, а мы слышали их реакцию. Если выступал кто-то из ретроградов, площадь возмущенно гудела. Когда выступал я, мои коллеги, говорили о независимости, с площади шли крики поддержки. Я не помню другой такой сессии, когда парламент бы работал с улицей. Улица не была агрессивной, она была светлой. После голосования мы вышли на площадь, я помню эту радость, люди несли цветы, меня женщины целовали, все пели песни. Милиция вся была вместе с нами, радовались, смеялись. Полное несоответствие с тем, что сейчас.

Сергей Наумчик называет этот день самым счастливым в своей жизни. А запомнилось ему, как оппозиционеры не пустили к трибуне первого секретаря ЦК компартии Анатолия Малофеева.

— Гэта пераламала сессію. Малафееў выйшаў на трыбуну вельмі нахабна, мы проста рванулі да яго, фактычна выціснулі яго з трыбуны. Быў моцны шок у большасці дэпутатаў-камуністаў. Першы сакратар ЦК — гэта ўладар рэспублікі. Уявіце, што выходзіць на трыбуну Аляксандр Лукашэнка, а дэпутаты яго зганяюць. І гэта паказваюць па прамой трансляцыі на ўсю Беларусь. Уявіце, якое будзе стаўленне наменклатуры — ад Дома ўрада да апошняга сельсавета.

Второй момент, который запомнил Наумчик, это речь Зенона Позняка перед самым голосованием.

— Гэты выступ пераканаў многіх дэпутатаў-камуністаў. Усе чакалі, што ён будзе іх паласкаць, а Пазняк сказаў абсалютна нечакана, што Ельцын як кіраўнік Расеі па сваёй сутнасці застаецца імперцам. Тады ў зале была абсалютная цішыня. Потым адзін за адным пачалі выступаць кіраўнікі абкамаў, Кебіч: давайце падтрымаем Пазняка. Гэта было абсалютна нечакана. Пазняк потым сказаў, што гэта быў абсалютны экспромт, і гэта было вельмі трапна.

Петр Садовский, который позже станет первым послом Беларуси в Германии, говорит, что в эти дни начиналась история страны.

— Незабыўна захавалася ў эмацыйнай памяці плошча перад Домам урада, запоўненая тысячамі людзей. Калі мы выйшлі пасля галасавання з будынку, і розумам, і сэрцам стала канчаткова зразумела, што адбылося нешта незвычайнае ў паводзінах людзей: абсалютная разняволенасць, шчаслівыя вочы, абдымкі, песні, мора бел-чырвона-белых сцягоў. Нават міліцыя стала адзіным цэлым з шчаслівым натоўпам. Дзяўчаты падносілі міліцэйскім службоўцам кветкі, прышпілялі на ўніформу значкі з «Пагоняй».

После начала митинга Садовский уже не помнит, как оказался на крыше автомобиля-ретранслятора БТ.

— Туды мяне падсадзілі дзясяткі рук. Стаю і не магу гаварыць. У горле — камяк, не пракаўтнуць. Душаць слёзы радасці. І раптам стала лёгка: заспявалася купалаўскае:

А ў бары-бары тры дарожанькі.
Гэй-гэй-гэй, тры дарожанькі ...
Там ішоў жаўнер наш прыгожанькі.
Гэй-гэй-гэй, наш прыгожанькі.
Па якой пайсці, задумляецца
Гэй-гэй-гэй сумляваецца...

Спявалася пра сцежку, што вядзе на ўсход, і пра тую што на захад сцелецца. А канец быў такі: «Выбіраў жаўнер трэцю сцежачку, бо вяла яна ў Родну Межачку. Уся плошча спявала адным дыханнем, магутна і радасна.

Депутата из демклуба Александра Спиглазова события московского путча застали в отпуске в Сочи, где он отдыхал с семьей.

— Мы сели на ближайший самолет, чтобы вернуться в Минск. Вскоре было голосование, его исход был предопределен изначально. Дискуссий больших не было, большинство смирилось заранее. Наверное, Вячеслав Францевич [Кебич] сказал всем, что надо поступить так, а не иначе. К моменту голосования все эмоции прошли уже, все воспринималось как рабочий момент. Даже сам этот день мне показался обыденным.

Вице-спикер парламента, который вскоре его возглавил, Станислав Шушкевич самым ярким эпизодом называет подготовку Декларации, которую объявили конституционным законом 25 августа 1991 года.

— Я возглавлял подкомиссию по этому вопросу, и в нее входили вид-ные партийные руководи-тели: Леонов, Малофеев. Они очень плодотворно над текстом работали, забыв, что они великие коммунисты. Я понял, что у нас много нормальных людей, несмотря на их посты. 25 августа я такого результата голосования не ожидал, хотя сам голосовал с большим энтузиазмом. Здесь надо признать правоту депутатов БНФ. Я очень побаивался, что конституционного большинства не будет.

Александр Соснов, успевший потом побывать министром труда, говорит, что вся неделя начиная с 19 августа была напряженной.

— Я был в отпуске. Утром, когда узнал, сразу же развернулся в Минск. Все события прошли быстро и ожидаемо. Те события даже трудно назвать первым шагом, мы только начинали строить страну. Особенно учитывая, что в стране оставалось 80% «ГКЧПистов по убеждениям». Помню, что проголосовали и были страшно довольны. Мы давно это хотели сделать, но номенклатура нам не давала. А тогда им некуда было деваться, они страшно перепугались. Как только ГКЧП начался, некоторые из них ходили, задрав нос, и говорили нам: «Ну что, ребята, теперь мы с вами разберемся». Когда все перевернулось, они тихо крались вдоль стенок и говорили, что они тут ни при чем. Они потом к весне оклемались, тут их убеждать не пришлось, от страха они приняли все.

Свои эмоции в те дни лидер БНФ Зенон Позняк описал в последней статье для сайта «Народная перамога»:

— За ўсё маё жыццё па сённяшні дзень, я не адчуваў нічога падобнага ў душы. І мяркую, ня толькі я. Было такое ўражаньне, што мы выйшлі з залі з будынку Вярхоўнага Савета і трапілі ўжо ў іншы сьвет, які перамяніўся. Адчуваньне незвычайнага шчасьця, якога я да гэтага не адчуваў ніколі, агарнула істоту, горача падкатвала пад самае горла. Вакол, здавалася, былі ўжо іншыя дамы, дрэвы, слупы, ліхтары і трава. Па-іншаму пахла паветра, паветра свабоды, і ўсё навокал было сваё.

Депутат Александр Лукашенко, судя по стенограмме сессии, в зале голосования 25 августа 1991 года отсутствовал. Тогдашний премьер-министр Вячеслав Кебич не стал комментировать TUT.BY события того дня: «Это было настолько давно, не надо уже это вспоминать».

Спустя месяц, 19 сентября 1991 года, Верховный совет принял решение называть БССР Республикой Беларусь, в сокращенном названии — Беларусь. Тогда же было принято постановление ВС о государственных символах, которыми стали бело-красно-белый флаг и герб «Погоня».

**Артем Шрайбман**
**tut.by**

РЭЗАНАНС

# «... ЛЮДИ ДОЛЖНЫ РАБОТАТЬ МАКСИМУМ ПЯТЬ ЧАСОВ В ДЕНЬ»

**Посещая Малориту, Александр Лукашенко намекнул, что белорусы сами виноваты в своих низких зарплатах. Лидер независимого профсоюза ответил главе государства.**

– В Беларуси только ленивый может не заработать. Мы что, воюем, война у нас идет или еще что-то..? Надо просто немного шевелиться, – сказал Александр Лукашенко.

Также руководитель государства отметил, что каждому белорусу, прежде всего, необходимо «рассчитывать на себя».

– Это все в очередной раз сказано на публику, – сказал в экспресс-комментарии «Салідарнасці» председатель Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности Геннадий Федынич. – Почему он в Малорите не упомянул о тысяче долларов зарплаты, которые были обещаны несколько лет назад? Или о том, сколько в этом районном центре было создано эффективных рабочих мест, где люди могут нормально заработать?

По мнению собеседника, в Беларуси по большому счету не созданы условия, чтобы люди могли получать достойную зарплату.

– Для этого нужно развивать малый и средний бизнес, делать так, чтобы человек имел возможность не получать, а зарабатывать деньги, соответствующие его труду. Но, к сожалению, политика государства сегодня направлена на то, чтобы человек получал свои мизерные деньги и во всем зависел от власти. Я вообще считаю, что за те 300-400 рублей, которые многие получают, они обязаны работать не восемь часов в день, а максимум пять. А в остальное время должны получить возможность подработать в другом месте, чтобы содержать свою семью – вот это была бы хоть какая-то поддержка со стороны государства.

Сейчас же, по словам профсоюзного лидера, многие белорусы и так «крутятся на трех работах» и подрывают свое здоровье, пытаясь больше заработать.

– Почему на том же Западе люди могут нормально работать на одной работе и содержать семью, платить за коммунальные услуги, чувствуя себя полноценным гражданином своей страны? У нас же человек думает, купить ли ему сегодня творог или два дня потерпеть, чтобы купить немного мяса. Это прямая ответственность государства, – подчеркнул Геннадий Федынич.

**Новость с сайта**
**gazetaby.com**

ДАХОДЫ КІРАЎНІКОЎ

# КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЮЦЬ КІРАЎНІКІ ВЕРТЫКАЛІ…

**Многія начальнікі адпраўляюцца балатавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, таму хочуць яны ці не, але абавязаныя падаць інфармацыю аб сваіх даходах, а таксама маёмасці. Паглядзім, як жыве раённае і абласное кіраўніцтва краіны.**

Па Палескай выбарчай акрузе №43 вылучаецца старшыня Ельскага райвыканкама Леанід Пісанік. Апроч Ельскага раёна, у акругу ўваходзяць Лельчыцкі, Нараўлянскі і частка Мазырскага раёна. Пісаніку 59 гадоў, ён родам з Мазыра. У савецкі час будаваў сабе кар'еру ў якасці вайскоўца. Толькі ў 1997 сышоў з службы ў чыноўнікі. Ад 2011 года ўзначальвае Ельскі райвыканкам. Варта адзначыць, штоЛеанід Пісанік з'яўляецца членам Камуністычнай партыі Беларусі.

За мінулы год чыноўнік зарабіў звыш 279 мільёнаў недэнамінаваных рублёў. Гэта каля 23,3 мільёнаў у месяц. Сярэдні заробак па Ельскаму раёну, паводле дадзеных Белстата, складае 4,8 мільёны рублёў. Гэта адзін з найбяднейшых раёнаў краіны.

У самім Ельску Пісанік маёмасці не мае. Затое ў яго ёсць дастаткова прасторная кватэра на 84,39 кв.м. у Мазыры.

Сярод канкурэнтаў Пісаніка ёсць фермер, аператар аўтаматычных ліній і пенсіянер. Дык вось ні ў каго з іх сярэдні даход за месяц не перавышаў 3 мільёнаў рублёў.

З Ельска пераходзім у недалёкія Калінкавічы. Па мясцовай акрузе №41 вылучаецца старшыня Мазырскага райвыканкама Яўген Адаменка.

Яму 56 гадоў, нарадзіўся ў вёсцы Лубень Нараўлянскага раёна. Скончыў сельскагаспадарчы інстытут. Да Мазыра быў кіраўніком Калінкавіцкага райвыканкама. Даходы Адаменка летась склалі 360 мільёнаў рублёў. Гэта значыць, што ў сярэднім у месяц ён зарабляў каля 30 мільёнаў. Сярэднія зарobкі па Мазырскаму раёну складаюць 6,8 мільёнаў, дзякуючы нафтаперапрацоўчаму заводу.

Пазначана, што ў маёмасці Адаменкі таксама маецца прыватны дом у Калінкавічах, але плошча не пазначаецца.

На Віцебшчыне дэпутатам па Сенненскайакрузехочастацьстаршыня Дубровенскага райвыканкама Анатоль Лукашоў. Ягоны даход у 2015 годзе склаў 227 мільёнаў рублёў, то бок у месяц ён атрымліваў каля 19 мільёнаў. Ва ўласнасці кандыдата таксама маецца прыватны дом у Дуброўна плошчай 142 м.кв., а таксама сціплы аўтамабіль «Audi A6» 2000 года выпуску.

Ёсць сярод вылучэнца і адна намесніца старшыні райвыканкама — маладзечанскага. Гэта Людміла Канановіч. Яе даход склаў звыш 191 мільёна рублёў, гэта значыць менш за 16 мільёнаў на месяц. У спадарыні Канановіч таксама маецца кватэра ў Маладзечне плошчай 52 м.кв., а таксама дачны домік у Смаргонскім раёне.

Колькі зарабляюць на ўзроўні намеснікаў старшынь у аблвыканкамах

Па Рэчыцкай выбарчай акрузе вылучаецца намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Баляслаў Пірштук.

Яму 57 гадоў, родам з вёскі Пірштукі Ляхавіцкага раёна. Працоўную кар'еру будаваў у Светлагорскім раёне, дзе займаў розныя пасады ў выканаўчым камітэце. Адметна, што ў той самы час у Светлагорску працавалі сённяшні віцэ-прэм'ер Уладзімір Патупчык і былы старшыня Гомельскага аблвыканкама і КДК Аляксандр Якабсон.

У аблвыканкаме Пірштук зарабіў летась 320 мільёнаў рублёў, больш за 26 мільёнаў у месяц. Таксама ў маёмасці дом у Гомелі з плошчай 187 кв.м., а таксама аўтамабіль Аўдзі А4, 2014 года выпуска.

Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цупрык вылучаецца кандыдатам па Баранавіцкай сельскай акрузе №7. Адметна, што ён вылучаны шляхам вылучэння калектывам Ляхавіцкай цэнтральнай бальніцы.

Даходы Цупрыка складаюць 432 мільёны рублёў. Аднак у дадзеных адразу пазначаецца, што 130 мільёнаў — гэта продаж паловы кватэры. Яшчэ 8,7 мільёнаў — гэта крэдыт ад «ХоўмКрэдытБанка». Цікава, на што не хапала грошай чыноўніку.

У маёмасці Цупрыка маецца аўтамабіль «Нісан-Кашкай», 2010 года выпуска.

Узяў крэдыт таксама кіраўнік справаў Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Іван Маркевіч. Ягоны крэдыт у «Беларусбанку» склаў аж 150 мільёнаў рублёў.

Калі адняць крэдыт, то сярэдні даход Маркевіча складае каля 22 мільёнаў у месяц. У яго валоданні ёсць вялікая кватэра ў Мінску (100 кв.м.), а таксама дом у Валожыне (198 кв.м.).

Таксама Маркевіч пазначыў у валоданні матацыкл "Ява", 1987 года. Вылучаецца Маркевіч па Маладзечанскай сельскай акрузе.

**Навасць з сайта gazetaby.com**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ЛАГВІНЕЦ ДАЎ ДЖАЗУ НА ТОК-ШОУ ГІГІНА

**Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец жорстка раскрытыкаваў улады на тэлеканале АНТ.**

Ток-шоу «Справа прынцыпу» з вядучым Вадзімам Гігіным 22 жніўня было прысвечаная тэме парламенцкіх выбараў. Адным з гасцей перадачы быў Алесь Лагвінец, якога не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты па Сухараўскай выбарчай акрузе. Лагвінец сышоўся ў гарачай дыскусіі са старшынькай ЦВК Лідзіяй Ярмошынай.

Лагвінец перш за ўсё падшпіліў Вадзіма Гігіна як патэнцыйнага выбарца, бо вядучы жыве ў Сухараве і гіпатэтычна мог галасаваць за прадстаўніка Руху «За Свабоду».

«Я выкарыстоўваў выбарчую кампанію, каб прадэманстраваць, што ўлада ў нас несправядлівая. Сапраўдныя выбары будуць толькі тады, калі будзе празрыстыя працэс. Усе назіральнікі АБСЕ кажуць, што ў нас несправядлівыя выбары, няма падліку галасоў», — сказаў Лагвінец.

Ён агучыў інфармацыю, што з 37 чалавек, якія ягоная каманда вылучыла ва ўчастковыя камісіі, зарэгістраваныя былі толькі двое.

«Дык а навошта вы гэты тэатр абсурду рабілі?» — спытаўся Гігін.

«Каб паказаць, што выбараў няма. Пакуль у нас не расследаваныя да канца справы зніклых палітыкаў, пакуль у краіне ёсць палітвязні, справядлівых выбараў не будзе», — запэўніў Алесь Лагвінец.

«Мы карыстаемся выбарамі, каб прадэманстраваць несправядлівасць уладаў. Несправядлівасць у пытанні заробкаў». На гэтым Гігін спрабаваў перабіць Лагвінца: «Несправядлівая ўлада дае апазіцыі магчымасць яе крытыкаваць».

«Народ дае. Гэта запісана ў Канстытуцыі».

Пасля Вадзім Гігін спрабаваў «абараніць» Алеся Лагвінца перад Лідзіяй Ярмошынай, чаму ж апазіцыйнага кандыдата не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты.

«Вы выступаеце адвакатам д'ябла, — адрэзала Ярмошына. — Лагвінец паводзіў сябе так, нібыта для падручніка «Як нельга паводзіць сябе падчас выбараў. Пастаянна, дзёрзка, груба парушаў выбарчае заканадаўства. Прычым рабіў ён гэта намерана, спецыяльна».

Лагвінец адзначыў, што сёння парламент успрымаецца як сінекура, магчымасць для наменклатуры зарабіць добрую пенсію. «У вас добрая пенсія будзе, спадарыня Лявоненка?» — спытаўся ён рытарычна ў дэпутаткі-камуністкі Валянціны Лявоненка.

Пры канцы Лагвінец адзначыў, што фальсіфікацыі адбываюцца на ўзроўні ўчастковых камісій.

У фэйсбуку Алесь Лагвінец напісаў, што з ягонага выступу была выдаленая наступная частка: «Справядлівыя выбары будуць тады, калі Лукашэнка і Ярмошына будуць на пенсіі».

Таксама госцем перадачы быў палітычны аналітык Валерый Карбалевіч. Ён адзначыў, што выбараў у краіне няма.

«Нават улада не хавае таго, што гэта імітацыя. Ярмошына нядаўна сказала, што апазіцыя рыхтуецца да паразы. Выбары яшчэ не пачаліся, а ўжо ведаюць іх вынікі. Проста нейкая Ванга. Уявіце, калі футбольны суддзя, выводзячы каманды на поле, будзе казаць адной з іх: «У вас няма шанцаў, вы саступіце».

«Вынік загадзя вядомы», — лічыць аналітык.

**Зміцер Панкавец nn.by**

ПАМЫЛКА СПЕЦНАЗА

# ВРАЧ-ПЕДИАТР: «МОЮ ГОЛОВУ ПРИДАВИЛИ КРОССОВКОМ…

**Отряд спецназа «по ошибке» вломился в квартиру врача-педиатра и избил его до потери сознания.**

Сайт правозащитного центра «Вясна» сообщил об очередном случае милицейского произвола в Минске. К юристам обратился врач-педиатр Дмитрий Середа и рассказал историю, которая красноречиво характеризует стиль работы белорусской милиции.

По словам мужчины, находясь в своей квартире вместе с женой и маленькой дочкой, он услышал, что в дверь начал кто-то ломиться. Это были неизвестные в масках: без звонка и объяснений они стали выбивать входные двери, а также спустились с крыши и разбили стекло балконной двери на кухне.

Когда хозяин квартиры попытался узнать, что за люди хотят попасть в его дом, неизвестные ворвались внутрь, уложили Дмитрия Середу лицом в пол, не отвечая на вопросы: «Кто вы? Что происходит?». Только позже один из вломившихся сказал беременной жене хозяина квартиры, что они «из милиции».

— Я пытался повернуть лицо в другую сторону, за что получил удар по лицу и приказ не двигаться, — описывает события того утра Дмитрий Середа. — После этого мою голову придавили кроссовком и посыпались удары по голове, телу в области почек, спине и ногам. У меня подступил ком к горлу и в голове помутнело — я стал терять сознание.

Позже, как сообщают правозащитники, белоруса погрузили в автомобиль и повезли в милицию, где продержали более суток.

В результате выяснилось, что мужчина был задержан по ошибке (свидетельница по делу, расследуемому милицией, заявила, что он «совсем не похож» на преступника). На следующий день его, наконец, отпустили на свободу, поскольку у следователя «отпали основания для дальнейшего содержания его под стражей».

Сейчас белорус находится на больничном, а его жена и дочь до сих пор пребывают в состоянии шока. Несмотря на то, что Дмитрий Середа уже направил жалобы в Следственный комитет, МВД и Генпрокуратуру, пока перед ним никто не извинился.

— Пока от милиции нет абсолютно никакой реакции, — рассказал в пятницу в полдень «Салідарнасці» Дмитрий Середа. — Мы только сегодня с юристом жалобы составили правильно и отправили их. А так целыми днями ходим по врачам — вчера у психиатра были, позавчера в поликлинике. Жена до сих пор в стрессе, ребенок — на нервных истериках. Дочке поставили диагноз: нервный срыв.

Собеседник признался, что сейчас он подробно расписывает эту ситуацию для публикации в интернете: «Чтобы люди знали, что их может ждать в будущем».

**Евгений Федоров gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.08.2016 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.